## Слонімская хроніка.

### НАЛЕТ НА КАСУ СЛОНІМСКАГА СОЙМІКА.

У ночы з 3 на 4 лістапада г. г. быў зроблены налёт на касу Сойміка ў Слоніме, ў якой знаходзілася тады каля 150,000 злот. Дзякуючы ўвазе і прытомнасьці стоража Сойміка Врубля грабёж ня ўдаўся. Сярод 4 грабіцеляў адзін ёсьць забіты (жыд з Вільні), а 3 злоўлены і пасаджаны ў слонімскі вастрог. Ідзе сьледзтва. Трэба адзначыць, што сярод 4 налётчыкаў есьць аж 3 жыды (2 з Вільні і 1 з Баранавіч).

Акружны Суд у Горадні на судовай сэсіі ў Слоніме ад 4/XI. г. г. пачаў разглядаць палітычныя справы. Таго-жа дня быў засуджаны на 1 год цяжкага вастрогу за вывяску чырвонага сьцяга з камуністычным клічам жыхар в. Пасінічы, Міжавіцкай гм., Слонімск. павету Лукаш Шэцька.

Дня 27 лістапада г. г. у Слоніме будзе склікаты зьезд сельска-гаспадарчых арганізацыяў Слонімскага павету.

Ў сувязі з выбарамі да мястовай Рады м. Слоніма пачалася энэргічная падрыхтоўка радных арганізацыяў у Слоніме. Усякія спробы зрабіць блёк дэмакратычны—не ўдаліся пакуль-што. Першую скрыпку трымаюць слонімскія жыдкі з Вайсам на чале, якога так неасьцярожна выбралі беларусы — сябры сойміка—у сябры выдзялу павятовага, а цяпер шкадуюць гэтага і маюць думку скінуць жыда з таго мейсца, дзе ён зусім не патрэбны і карысьці беларусам ня дасьць ніякай, а заўсёды будзе хлапатаць толькі аб жыдоўскіх канцэсыях. Стыд нам павінен быць за тое, што выбралі Мошку чы Зайса на "абаронцу" свайго, а ў дадатак чалавека, які зьяўляецца сябрам вельмі скампраметаванай надужыцьцямі мястовай рады Слоніма. Такім людзям не павінна быць мейсца ў Сойміке і дзеля таго гэтый Зайс павінен дабравольна зараз-жа выступіць з Сойміка. Там яму ня мейсца, як сябру мястовай Рады, стаячай пад закілам розных надужыцьцяў.

## Пісьмы у рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Прашу зьмясьціць у Вашай паважанай газэце наступнае:

Я, быўшы сябра Сель-Саюзу ў Грамавічах, Маладэчанскага павету, Беніцкай гміны, Пётра Асіповіч гэтым заяўляю, што не хачу далей належыць да партыі Беларускага Сялянскага Саюзу пана Ярэміча. Жадаю прылучыцца да Беларускае Нацыянальнае Рады і прашу выслаць інструкцыі, праграмы і пробны нумар газэты „Беларускае Слова“ па адрэсу: в. Грамавічы, пошта Беніцкая, Маладэчанскага павету.

З пашанаю

*Пётра Асіповіч.*

*Ад Рэдакцыі.* Прасімыя інструкцыі, праграма і газэта будуць высланы.

*Да п. Старшыні Бел. Нац Рады!*

Я, Кастусь Хадзінскі, жыхар в. Новыя-Зіморы, Куржэнецкай гм. Вялейскага пав., старшыня гуртка Т-ва Беларускае Школы ў в. Новыя Зіморы гэтым заяўляю, што выхаджу з Т-ва Беларускае Школы і прашу прыняць мяне ў лік сябраў Бел. Нац. Рады і Партыі. Пры гэтым далучаю сяброўскі білет № 772.

З пашанаю

*К. Хадзінскі.*

4/XI-27 г.

## Юрыдычныя парады.

*Грам. Ан. Г-чу. Запытаньне:* Сястра выйшла замуж за В П-ша, якому яго дзядзька, як бяздзетны апісаў усю зямлю. П-ш цяперака памёр. Засталася дачка. За кім можа застацца зямля на выпадак сьмерці дзіцяці і калі-б мая сястра выйшла другі раз замуж?.

*Адказ:* Жонка пасьля мужа мае права на $^1/_7$ часьць яго маемасьці. Гэткім чынам вашая сястра можа цяпер выдзяліць сабе гэтую часьць і рабіць з ёю, што ёй падабаецца. На гэтую часьць яна можа прыняць надомніка і перадаць яму яе. Што датычыць рэшты маемасьці, то яна належыць да дачкі. Калі яна вырасьце — ца яе на гэтую маемасьць можна ўжо ўзяць надомніка. Калі-ж памрэ — матка мае права толькі на дажыцьцёвае (да сьмерці) карыстаньне маемасьцяй, без збываньня або перадаваньня каму права на маемасьць (з вынятком арэнды і запашкі).

*Грам. Я. Б-лову. Запытаньне:* У 1923 годзе я купіў ад суседа 3 дзесяціны зямлі. Была зроблена запрадажная ў натарыуса. Грошы я заплаціў усе і па гэтай запрадажнай атрымаў купленую зямлю. Купчая павінна была быць зробленай у працягу году. Але прадавец не вырабіў дакумантаў і тэрмін для купчы быў адсунуты да атрыманьня дакумэнтаў. Зямля была страшэнна запушчанай: ад часу бежанства з 15 г. не абраблялася, зарасла бярэзьнікам. Я вычысьціў хмызьнякі, ўзьняў цміну, прыбраў каменьні. Тымчасам у гэтым годзе памёр прадавец, а яго сын зганяе мяне з зямлі, і прапануе мне зварот заплачаных яго бацьку грошаў. Я тады плаціў маркамі, апрыч таго—я-ж столькі выпажыў і працы і грошаў на апрацоўцы зямлі. Што рабіць і як бараніцца.

*Адказ:* Згодна з законам запрадажная не дае права ўласнасьці і прадавец, або яго насьледнікі маюць права зьнічтожыць яе, як кожную іншую ўмову. Але могуць яны зрабіць гэта толькі пад варункам звароту грошаў удвоя проці заплачаных. А ў вашым выпадку — прадавець павінен заплаціць вам і адшкадаваньне за ўдабрэньне і апрацаваньне зямлі. Калі ня згодзіцца сын прадаўца дабравольна здаволіць вас — хай падае ў Суд. Бяз Суду нічога вам ня зробіць. А тады вы падайце стрэчную позву (powództwa wzajemne) і прасіце засудзіць вам апрыч заплочаных вамі грошаў у падвойным ліку — яшчэ і кошты апрацоўкі зямлі і страты, якія вы панясеце з прычыны адабраньня ад вас зямлі, якую вы апрацоўвалі ўжо як уласную.—Страты і кошты трэба даказаць сьведкамі.

## Паштовая скрынка.

А. Воронко, 2 зл. атрыманы, газэта высылаецца.

Н. Сьвятоха, В. Скіба, М. Юшка, У. Дамброўскі, Ю. Клімовіч, Г. Рокач, П. Ластаўка, В. Крук, А. Ворон, М. Песковы, С. Масэвіч, В. Сенькевіч, Я. Усьціновіч, А. Мікірэй, А. Пецюкевіч, Я. Пестун, А. Чэкан, М. Вербіцкі, А. Паўлаў, — газэты высылаюцца.

В. Лепец, Х., С. Юрэвіч, Пугач, карэспадэнцыі будуць зьмешчаны ў наступным нумары.



Адказны Рэдактар Т. Вернікоўскі. Друк. І. Баеўскага Вільня, Мастовая 9. Выдавец Беларуская Нацыянальная Рада.